# ВЕСЬНІК

**Беларускага Каталіцкага Душпастырства**

**Но.1(2)** **Сакавік 1987**

## ХРЫСТОС УВАСКРОС !

"Калі Хрыстос не ўваскрос, дык і навука наша дарэмная, дарэмная і вера вашая" (1 Кар. 15:14).

Уваскрасеньне Хрыстова, як можна бачыць з вышэй прыведзеных слоў сьвятога Паўла, займае асаблівае, адзінае месца ва ўсёй гісторыі нашага збаўленьня. Яно зьяўляецца вуглавым каменем усёй нашай веры, без якога не было б сёньня ні хрысьціянства, ні Царквы Хрыстовай. Быць хрысьціянінам гэта ў першую чаргу – перш чым успрыняць усе іншыя праўды хрысьціянскай навукі і правілы маралі, – верыць, што Хрыстос, які быў укрыжаваны на загад Понцкага Пілата, уваскрос зьмёртвых на трэці дзень і жыве вечна ў славе.

Дык Уваскрасеньне Хрыстова зьяўляецца неаспрэчным гістарычным фактам . Але гэтым ягонае значэньне не вычэрпваецца. Яно зьяўляецца завяршэньнем справы нашага збаўленьньня, якую Хрыстос распачаў сваім нараджэньнем, прыняўшы людзкую прыроду і стаўшыся адным з нас . Уваскросшы, Ён узьняў з сабою гэтую людзкую прыроду, узвысіў яе, "абагавіў", даўшы ёй удзел у сваім боскім бясконцым жыцьці і боскай славе. Магіла, у якой было пакладзенае цела Хрыста, але якую жанчыны, што прыйшлі туды на трэці дзень раніцай, знайшлі пустою, набірае ў гэтым кантэксьце асаблівага значэньня. Бо ж целу, як і ўсім прадметам рэчыўнага сьвету, уласьцівая няўстойлівасьць, недаўгавечнасьць: яно падлягае законам тленнасьці і раскладу. Хрыстос уваскрасіў цела, а зь ім увесь рэчыўны сьвет, надзяляючы яго ўласьцівасьцю нятленнасьці, вечнасьці. Такім чынам уваскрасеньне зьяўляецца сапраўдным новым актам тварэньня.

"Усе, што ў Хрыста ахрысьціліся, у Хрыста апрануліся" (Гал. 3:27). Ва ўваскрасеньні Хрыстовым мы знаходзім адказы на пытаньні, якія нас найбольш хвалююць: хто мы такія , якая наша апошняя мэта і цяперашнія заданьні.

Чалавек не зьяўляецца толькі целам : ён не належыць выключна да рэчыўнага сьвету, як цьвердзяць матэр'ялісты. Іхнае разуменьне чалавека вельмі супярэчлівае : з аднаго боку чалавек, паводле іх, зьяўляецца вынікам сьляпой эвалюцыі бяздумнага рэчыва; з другога – ён уладар рэчыўнага сьвету, які ён сваім розумам пазнае і падпарадкоўвае сабе. Выглядае нешта на падобнеьства пены, якая думае (калі б яна магла думаць), што магутная марская хваля, на вярху якой яна зьявілася на хвілінку, каб неўзабаве зьнікнуць бяз сьледу, падпарадкоўваецца ёй.

З другога боку мы не зьяўляемся істотай чыста духоўнай, што толькі да часу знаходзіцца ў палоне цела, чакаючы вызваленьня. Цела зьяўляецца неад'емнай

складовай часткай нашага "я", без яго чалавек ня ёсьць чалавекам. Хрыстос, ўваскрасіўшы цела, даў нам выпаўненьне нашага найбольш запаветнага жаданьня – несьмяротнасьці. Мы ведаем сёньня, што нашым удзелам ёсьць вечнае жыцьцё, хоць, каб асягнуць яго, мы павінны перайсьці, як і Хрыстос, цераз сьмерць. Дык ня дзіва, што хрысьціянскі погляд на чалавека жыцьцярадасны.

Са сказанага вышэй можна зрабіць вывады адносна хрысьціянскага жыцьця тут на зямлі. Перадусім аднак скажам , чым яно ня ёсьць: хрысьціянскае жыцьцё ў ніякім выпадку не зьяўляецца ўцёкамі ад гэтага сьвету. Не, хрысьціянін жыве ў гэтым сьвеце. Настойлівай дзейнасьцю, выкарыстоўваючы багацьці і магчымасьці гэтага сьвету, ён стварае духоўныя вартасьці, разьвіваючы дадзеныя яму Богам дары-таленты. Такім чынам ён узьдзейнічвае на гэты сьвет, і стаецца саўдзельнікам Хрыста ў яго адухаўленьні.

Дзейнасьць гэтая, як і ўся дзейнасьць Хрыста , павінна праходзіць у духу любові. Любові ўсеабдымнай, у якой ёсьць месца для кожнай істоты, кожнага Божага стварэньня. Прыпомнім сьвятога Францішка Асыжскага, які называў сваімі братамі ня толькі усе жывыя істоты, але нават неажыўленыя прадметы, як сонца, месяц і зоркі. Бедачок з Асыжу адчуваў сэрцам, што ўсё, што існуе , створанае Богам і ў некаторай меры адлюстроўвае Ягоную веліч і славу, і таму – кожнае паводле свайго стану, – годнае пашаны і любові. У гэтым крыецца сур'ёзная навука для нас усіх. Мы маем права і павінны для нашай карысьці і патрэбаў выкарыстоўваць рэчы гэтага сьвету згодна з іх назначэньнем, але не злоўжываць імі. Гэта варта памятаць асабліва ў наш час, калі, дзеля дасягненьня часовай карысьці, мы часта назіраем працэс бяздумнага зьнішчэньня асяродзьдзя ў такой ступені, што часам ставіцца пад сумненьне магчымасьць далейшага існаваньня жыцьця на зямлі.

Безумоўна, нашаялюбоў перш за ўсё скіраваная да іншых людзей , нашых братоў і сёстраў. Асабліва да тых, якія цярпяць прасьлед, "вязьняў сумленьня", нявінных ахвяраў дыскрымінацыі, тэрору, войнаў; да тых, што цярпяць голад, нястачу і страты выкліканыя прыроднымі няшчасьцямі, або самымі людзьмі; хворых, калекаў, сірот – усіх не пералічыш: у кожным з іх мы павінны бачыць вобраз цярпеньняў Хрыста, які шукае ў нас спагады і дапамогі. Памятлівыя малітвы Хрыста на крыжы за тых, якія зьдзекаваліся над Ім, нашая ўсеабдымная любоў павінна быць пашыранай і на нашых крыўдзіцеляў і прыгнятальнікаў.

У духу любові трэба глянуць на нас саміх і спытацца ці нашым жыцьцём мы дастойныя звацца хрысьціянамі? Мы ж пакліканы быць сьведкамі вялікай і раданай праўды Уваскрасеньня Хрыстовага, каб тым, якім не было дадзена ласкі ведаць гэтую праўду, гледзячы а нас, загарэліся жаданьнем яе пазнаньня.

Глянем таксама на нашыя адносіны да тых, з якімі нас лучыць супольнае імя хрысьціянаў, хоць на жаль між намі існуюць і паважныя разьбежнасьці. Ці мы балюча адчуваем падзел між намі, быццам раны на целе Хрыста; ці мы шукаем

спосабаў залячыць гэтыя раны, ці, наадварот пасыпаем іх сольлю? Памятайма крык збалелай душы вялікага хрысьціяніна, сьвятога Паўла: "Ці разьдзяліўся Хрыстос?" (1 Кар. 1:13).

Вось некалькі думак з нагоды вялікага і сьветлага дня Ўваскрасеньня Хрыстовага. Сёньня, больш як ніколі, нам неабходна стараццa зразумець сэнс гэтага здарэньня ў гісторыі людзкога роду. Хрысьціянства ад самага свайго пачатку мела нямала непрыхільнікаў і ворагаў, якія рабілі спробы яму пашкодзіць, а нават зьнішчыць яго. Ніводная з гэтых спробаў, аднак, ня можа раўняцца з тым, што мы перажываем у наш час. Вось ужо некалькі дзесяткаў гадоў на вялікай частцы зямлі, у тым ліку і ў нашай Бацькаўшчыне Беларусі, пануе магутная палітычная сыстэма, у аснову якой пакладзена адмаўленьне існаваньня Бога. Для яе Уваскросшы Хрыстос – найвялікшы вораг, памяць аб якім неабходна дашчэнту выкараніць з людзкой сьвядомасьці. Наш час – гэта час выпрабаваньня і змаганьня за душы людзкія. Дык пастараймася ўзброіцца духова цераз асэнсаваньне нашага пакліканьня ў сьвятле Хрыстовага Уваскрасеньня, каб мэгчы сьмела і недвузначна адказаць на ўсякія атакі пераможным клічам:

## САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС !

## З НАШАГА ЖЫЦЬЦЯ

*У пачатку гэтага году я зрабіў падарожжа вакол сьвету і наведаў беларускія асяродкі ў Аўстраліі, Новай Зэляндыі і Злучаных Штатах Амэрыкі. Пакінуў я Лёндан 26 сьнежня, і вярнуўся 10 лютага. Немагчыма ў кароткіх словах перадаць уражаньні з падарожжа, з беларускіх Багаслужбаў у Сыднэі(4 студзеня), Лёс Анджэлес(17 студзеня), Чыкага (1 лютага: Багаслужба была за супакой душы памёршага годам раней Уладыкі Уладзімера Тарасэвіча), і ў Нью Ёрку (8 лютага); з Сустрэчы Беларусаў у Аўстарліі, якая адбывалася ў часе ад 6 да 10 студзеня ў Мэльбурне і на якой можна было бачыць ахвярнасьць і жыцьцяздольнасьць беларускага грамадзтва і іх заклапочанасьць за лёс беларускага народу; з сустрэчаў з прадстаўнікамі невялічкай групы беларусаў у Новай Зэляндыі; са спатканьня з беларускай моладзьдзю ў Нью Ёрку. Я меў магчымасьць пазнаёміцца з немалымі дасягненьнямі беларусаў у розных краінах, а таксама з цяжкасьцямі ў іхняй працы. Няраз прыходзілі мне на думку словы Збавіцеля аб багатым жніве і малым ліку працаўнікоў ... Усе, з кім мне прыходзілася сустракацца, вельмі цікавіліся цяперашнім станам і лёсам Беларускай Бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане. І то ня толькі на словах, але і справаю, як можа сьведчыць вялікая сума ( зmаль 4000 фунтаў) сабраных мною ахвяраў. Я вярнуўся яшчэ больш узмоцнены ў перакананьні, што вялікая задума Уладыкі Чэслава Сіповіча мае перад сабою запэўненую будучыню. Карыстаю з нагоды, каб шчыра падзякаваць усім тым, якія , падчас

майго падарожжа, аказалі мне так шмат зразуменьня, цеплыні і шчырай, сардэчнай гасьціннасьці. Калі я тут не называю іх прозьвішчаў, дык толькі таму, што на гэта не хапіла б месца. Але хачу іх запэўніць, што памятаю іх усіх у маіх малітвах і прашу, каб добры Бог адудзячыў ім, як гэта Ён толькі можа.

*Прашу памятаць у малітвах нашу царкву Хрыста Спаса ў Чыкага. Пасьля сьмерці Уладыкі Уладзімера Тарасэвіча, у ёй няма да гэтага часу сталага настаяцеля. Кардынал Бэрнардын, Арцыбіскуп Чыкага, назначыў часовым адміністратарам а. Джона Макдоннэля - цудоўнага чалавека і прыкладнага сьвятара, які за кароткі час зрабіў шмат добрага і здабыў любоў і пашану з боку парафіянаў. На жаль ягоны тэрмін зблiжаецца да канца. І вось зноў паўстае пытаньне, дзе знайсьці кандыдата на ягонае месца. На жаль беларускіх сьвятароў няма, а сярод небеларусаў цяжка знайсьці некага, які б, апрача нармальных сьвятарскіх абавязкаў, разумеў патрэбы беларусаў і хацеў захаваць асаблівы беларускі характар царквы.

*У Парыжы 29 сакавіка беларусы мелі сваю Багаслужбу на новым месцы. Праз доўгі час беларускія Багаслужбы адбываліся ў капліцы манастыра сясьцёр Сыёнскае Божае Маці. Нядаўна, аднак, з пераездам добрых сясьцёр на іншае месца, манастыр быў зачынены. Цяпер нашыя Багаслужбы будуць адбывацца ў старой і прыгожай царкве сьвятога Міколы "ў полі" (Saint Nicolas-de-Champs), якая знаходзіцца амаль побач з памешканьнем беларускага душпастырства.

*У Лёндане цяпер ёсьць двух беларускіх сьвятароў: апрача мяне, тут ужо год жыве а. Кастусь Маскалік, які два гады таму назад скончыў сваю працу ў Ватыканскім Радыё. Дзякуючы гэтаму, Багаслужбы ў нашай царкоўцы сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла, адбываюцца штодзённа, нават падчас маіх частых выездаў.

*У нядзелю 4 траўня я лячу на адзін тыдзень у Рым дзеля вырашэньня многіх важных спраў. Прашу усіх памятаць у малітвах мяне і справы Беларускай Каталіцкай Царквы. Асабліва прашу маліцца за сьвятарскія пакліканьні сярод беларусаў.

а. Аляксандар Надсон

---

Apostolic Visitor for Byelorussians
Marian House, Holden Avenue
London N12 8HS, England